# ШУКАЙЛА І ЯГОНАЯ КАМУНА

Віталь Вольскі-Зэйдэль у пачатку 1920-х г. быў начальнікам ці намеснікам начальніка памежнай заставы ў Дзяржынску. У 1980-я ўжо літаратар В. Вольскі расказаў паэту Сяргею Грахоўскаму такі выпадак са сваёй памежнай службы.

“Усіх перабежчыкаў спачатку прыводзілі да мяне. Прывялі неяк і рыжага хлопца ў світцы і ў лапцях з торбаю. — Што там? Паперы нейкія? — пытаю. — Вершы, — адказвае ўпэўнена хлопец. — Вершы? Ты што, паэт? — здзіўлена гляджу на лапцюжніка. — Паэт, — падымае ён вышэй галаву. — А звяць цябе як? — цікаўлюся. — Шукайла! — з гонарам гаворыць ён. Ну я і адпусціў хлопца…”

Пра далейшы лёс Паўлюка Шукайлы расказаў мне ужо ў канцы 1990-х г. сам Сяргей Грахоўскі.

“І вось гэты хлапчук у лапцях трохі “оклемался” і кінуўся ствараць так званую літаратурную камуну. Ён быў крыкун, галасісты такі, нахабны, бесцырымонны. Калі выступаў на вечарах, граміў усіх, хто не пісаў ягоным, так званым маякоўскім, стылем: “Што гэта за паэзія пад балалайку, вось трэба як, па-маякоўскаму — лесвічкай!”[1] Хоць да Маякоўскага Паўлюку было, як да нябёс, але гэта валтузня такая йшла, арганізацыйная, ствараліся розныя групы. У тую літаратурную камуну за ім пайшлі П. Броўка, Я. Скрыган[2], быў там яшчэ паэт Рыгор Казак[3], каля Любані ў вёсцы Пласток (па іншых звестках — у в. Нявязцы. — ***Л. М.***) жыў другі паэт Апанас Атава[4] і нават заехаў у Мінск (у лютым 1928 г. — ***Л. М.***) нейкі японец Удзяку Акіта — дык і яго прывезлі ў гэтую літаратурную камуну[5]. Мне Скрыган (ён быў правай рукой Шукайлы) расказваў, як яны арганізавалі гэтую групу. У пакоі Шукайлы падаслалі кажух, усе ляглі і так абмяркоўвалі сваю дэкларацыю. Потым Шукайла сабраўся і

---

[1] «Верш Паўлюка Шукайлы «Акорды дзён» з'яўляецца яскравым прыкладам макулатурна-халтурнае творчасці». *Сядура У.* (Маладняк. 1930. № 3)

[2] Пасля арышту ў лістападзе 1936-га адбудзе ў канцлагерах каля чатырнаццаці гадоў.

[3] Больш вядомы пад псеўданімам Рыгор Крушына. На той момант ужо “засвяціўся” ў НКВД, бо ў 1925-м быў арыштаваны па справе Юрыя Лістапада (расстраляны 5 чэрвеня 1938 г. у БАМлагу).
Раман Сабаленка (у 1933, 1937 і 1942 гг. арыштоўваўся, але ва ўсіх выпадках чамусьці незвычайна хутка вызваляўся), калі быў намеснікам галоўнага рэдактара тыднёвіка “ЛіМ”, выкрываў ідэалагічнага ворага Р. Крушыну з асаблівай зацятасцю: «Дарагія суайчыннікі, калі вам трапяцца вершы мюнхенскага падваротнага паэта Рыгора Крушыны, колішняга Казака, дык не верце ніводнаму слову яго: ён проста хрыстапрадавец» (Чаго вам хочацца, панове? Мн., 1961).
Памёр Р. Крушына ў 1979-м у ЗША. Ён, пераджыў свайго выкрывальніка на чатыры гады.

[4] Пасля 1930-га А. Атава нідзе не друкаваўся, з правінцыі не выязджаў, што хутчэй за ўсё і выратавала яго ад арышту.

[5] Таксама ў камуну ўваходзілі празаік Уладзімір Варава (забіты невядомым 4 траўня 1929 г. у Мінску), літаратар Алесь Гародня (загінуў 12 верасня 1944-га ў Пермскім канцлагеры), паэт Уладзімір Прыбыткоўскі (ягоны лёс дакладна невядомы: па адных звестках, загінуў на вайне, па другіх — у канцлагеры) і крытык Макар Шалай (сапраўднае — Шалаеў; растраляны ў сумна-вядомую ноч 29 кастрычніка 1937-га ў падвалах унутранай турмы НКВД — “амерыканкі”).

пайшоў у Савет Міністраў. Прыйшоў туды і гаворыць: «Мы ствараем новую групу, якая будзе стаяць на абароне сацыялістычнага ладу. Павядзем барацьбу са ўсякім упадніцтвам. Літаратурная камуна! Адна назва чаго варта».



Сядзяць: Алесь Гарадня (злева), Я. Скрыган. Стаяць (злева направа): Уладзімір Варава, Паўлюк Шукайла, японскі пісьменнік Удзяко Акіта, Макар Шалай.

М. Галадзед тады пытае: «І што вы хочаце?» — «Трэба грошы, бо часопіс будзем выдаваць», — тлумачыць Шукайла. «Які часопіс»? — цікавіцца М.Галадзед. «А мы ўжо і назву маем, — адказвае Шукайла. — «Росквіт». — «А колькі вам трэба грошай?» — «Ну, на першы нумар…» М. Галадзед сказаў: «2 тысячы хопіць?» Ну, гэта вялікія грошы былі. Вось так выдалі яны два нумары гэтага часопіса са сваімі партрэтамі. Потым С. Дарожны напісаў на П. Шукайлу эпіграму[6] (М. Лужанін лічыў, што яе аўтар — А. Дудар. — ***Л. М***.):

*Выйду я на сенажаць*
*Ды з нагану ў жабу бац!*[7]

[6] Магчыма, гэта быў адказ на тое, як той “ахарактарызаваў” у “Росквіце” творчасць Сяргея Дарожнага, Тодара Кляшторнага, Валерыя Маракова, Язэпа Пушчы, Паўлюка Труса і іншых: “Паэты пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы…»

[7] Збераглiся толькі два радкі.

Ледзь не да суда дацягнуў яго Шукайла «за абразу маёй асобы». Пасля ён пайшоў па партыйнай лініі. Быў першым сакратаром райкама партыі ў Слуцку. Там арганізаваў газету і ўзяў Скрыгана ў яе працаваць. Пасля яго перавялі ў Расоны на пасаду сакратара райкома. Скрыган мне расказваў, што ў Шукайлы ў кабінеце вісела два партрэты: К. Маркса і Шукайлы, гэта значыць яго самога. Ён і Скрыгана перацягнуў у Расоны. Пасля Шукайла (а быў ён авантурыстам усё ж вялікай хваткі) пісаў нейкія дысертацыі, але якая гэта была навука? У выніку распалася ягоная камуна. Потым ён паехаў у Маскву, а пасля, калі ў Ленінградзе арганізавалі акадэмію мастацтвазнаўства, пераехаў туды, дзе і стаў рэктарам гэтай акадэміі. Запрасіў да сябе працаваць А. Звонака[8], Я. Бобрыка[9], З. Бандарыну[10]. Пасля Шукайла знік. Мне Янка (Я. Бобрык, стрыечны брат С. Грахоўскага. — ***Л. М***.) расказваў, што яго, як крымінальніка, судзілі за фінансавыя махінацыі".[11]

Пра літкамунара П. Шукайлу ўспомнілі і паспелі ўнесці ў шасцітомны пісьменніцкі даведнік[12] у 1994-м дзякуючы намаганням С. Грахоўскага. Яго ўнесці паспелі, а іншых?

Мы ж павінны ведаць не толькі трох нашых святых, некалькі народных і тузін тых, што "на слыху". Прыйшлі новыя, дакладней, вярнуліся старыя часы, і да іншых у даследчыкаў яшчэ не хутка па-сапраўднаму дойдуць рукі. Калі дойдуць наогул. Да П. Шукайлы дайшлі толькі праз 55 гадоў пасля яго расстрэлу.



[8] Пасля арышту ў лістападзе 1936-га адбудзе ў канцлагерах каля дзесяці гадоў.
[9] Загіне ў 1942-м ад голаду ў блакадным Ленінградзе.
[10] Не дажыве і да пяцідзесяці.
[11] У архіўнай справе П. Шукайлы ёсць і наступнае сведчанне: «*Подследственный Шукайло никакой вины за собой не признал, но был приговорен к ВМН*».
У апошні час таксама стала вядома, што былога рэдактара-камунараўца энкавэдысты арыштавалі ў Маскве 1.11.1938 як бамжа (!).
[12] Маецца на ўвазе выданне: Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік у 6-ці тамах.